# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 3 (725) ГОД XV БЕЛАСТОК 18 СТУДЗЕНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ГП

5-га студзеня прэзідыум ГП на сваім пасяджэнні прыняў праграмныя напрамкі дзейнасці на 1970 год і зацвердзіў план працы ГП і план пасяджэнняў прэзідыума на першае паўгоддзе.

У бягучым годзе будзе асабліва многа звяртацца ўвагі на супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі і ўстановамі, а таксама на дапамогу гурткам у іх працы. Прадбачаны чатыры (раз на квартал) нарады-спатканні са старшынямі і членамі праўленняў гурткоў БГКТ. У бягучым годзе запланавана шырокае супрацоўніцтва са школамі, у якіх выкладаецца беларуская мова.

Шмат часу прэзідыум прысвяціў абмяркоўцы трох інструкцый: а) у справе стварэння камісій ГП і аддзелаў і напрамкаў іх працы, б) фінансавай інструкцыі, в) арганізацыйнай інструкцыі.

Згодна з планам працы, у другой палове сакавіка адбудзецца пленарнае пасяджэнне ГП, прысвечанае актуальным задачам творчых аб'яднанняў ГП (літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Белавежа» і навуковы гурток) і супрацоўніцтва іх з навуковымі ўстановамі.

### БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР

У апошнія дні снежня выйшаў з друку беларускі каляндар на 1970 год, выданы Галоўным праўленнем БГКТ. Каляндар складаецца з двух частак: насценнага календара і кніжкі з рознымі цікавымі артыкуламі.

### НАВАГОДНІ БАЛЬ

У памяшканні Галоўнага праўлення каля 150 асоб — членаў БГКТ — гуляла на навагоднім балю. Члены варшаўскага аддзела сустракалі Новы год таксама ў сваім памяшканні.

### ПАД НОВЫМ КІРАЎНІЦТВАМ

2-га студзеня адбылося першае пасяджэнне новага прэзідыума гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку пад кіраўніцтвам Івана Чыквіна. Прэзідыум апрацаваў праект плана працы аддзела на першае паўгоддзе 1970 года, які будзе зацверджаны пленарным пасяджэннем праўлення аддзела. Будуць зацверджаны пленумам таксама прапанаваныя прэзідыумам тры камісіі:

1) камісія да спраў клубнай дзейнасці або інакш рада клуба, 2) камісія культурна-асветная і 3) камісія арганізацыйная.

Прэзідыум разгледзеў таксама 18 новых дэкларацый і прыняў у рады БГКТ асобы, якія іх падпісалі.

### ХАРАВАЯ ГРУПА АДДЗЕЛА

5-га студзеня распачала працу харавая група гарадского аддзела БГКТ у Беластоку пад мастацкім кіраўніцтвам салісткі эстрады ГП «Лявоніхі» Марыі Мароз.

### АДЗІН З БОЛЬШЫХ ГУРТКОЎ

Гурток БГКТ на вуліцы Горная ў Гайнаўцы налічвае зараз 81 членаў. Паспяхова працуе ён пад кіраўніцтвам Уладзіміра Сулімы. Гурток гэты аплаціў у 100% членскія складчыны за мінулы 1969 год.

(мх)

## 17 СТУДЗЕНЯ — 25 ГАДОЎ З ДНЯ ВЫЗВАЛЕННЯ ВАРШАВЫ



Варшава. Від на Маршалкоўскую вуліцу і плошчу Канстытуцыі.




Янка Брыль

Добры вечар, ужо спакойная, стомленая працай дня, але яшчэ ўсё светлая Варшава! Яшчэ на граніцы мы паставілі свае гадзіннікі па тваёму часу. І нам не думаецца, што ўжо — не вечар, не адзінаццаць па-нашаму, а адзінаццаць па-твойму — ноч. Ды цябе не здзіўляе, вядома, наш позні прыцішаны гоман і адзінокі тупат ног на тваіх тратуарах — ты ўжо тым часам прывыкла, як прыгажуня, да захопленых позіркаў.

Спыняемся каля помнікаў Каперніку і Міцкевічу, каля касцёла Святога крыжа, дзе спачывае сэрца Шапэна. З вуліцы Кракаўскае прадмесце выходзім да славутай калоны Зыгмунта, якую варшавяне называюць другім, пасля сірэны, гербам сталіцы. І яна аднаўлена цяпер, як адноўлены разбураныя фашыстамі помнікі двум геніям — Каперніку і Міцкевічу, імёны якіх многа гавораць не толькі польскаму сэрцу.

Уваходзім у вузкія вулачкі Старога Мяста, равесніка Варшавы, якая сем стагоддзяў таму назад з глухое вёскі каля броду пачала рабіцца горадам на скрыжаванні еўрапейскіх шляхоў.

Камяні дыхаюць гісторыяй.

У тупіку чытаем надпіс на сцяне: тут у дні паўстання варшавян супроць фашысцкіх акупантаў расстраляна некалькі сот герояў. Трагічны гераізм!

...Варшава дорага аплаціла чужыя грахі: гарачай крывёю лепшых сваіх сыноў і дачок, крывёю дзяцей і жанчын. Знявечаны ў верасні 1939 года горад быў канчаткова пераўтвораны ў руіны. Разгромленыя паўстанцы, што хацелі выбрацца з акружэння па трубах каналізацыі, былі атручаны газамі...

Над пад'ездам аднаго з дамоў — арыгінальная лепка, што выклікае міжвольную ўсмешку: галубы, якія тоўпяцца над жменяю зярнят. Яшчэ раз чуем адну з найнавейшых легенд Старога Мяста — пра бабульку, якая тым і жыла, што карміла тут на працягу гадоў шэракрылатых любімцаў Варшавы. У першыя дні аднаўлення, калі цяжка было не толькі галубам, бабулька падпільнавала на руінах самога міністра і выказала яму прэтэнзіі сваіх падапечных. Кажуць, што галубіны бюджэт узрос пасля гэтага хутка і рэзка. Цяпер галубоў не відно, — спяць і яны, затуліўшыся недзе на гзымсах і ў тайніках падстрэшшаў, як спяць цяпер за вокнамі гэтых дамоў звонкагалосыя дзеці Старога Мяста.

Нашыя крокі асцярожна гучаць па гладкім, узорыстым бруку рынячнай плошчы. Позіркі снуюць па сценах, нібы па зжаўцелых старонках летапісу.

Старадаўнія ліхтары, па малюнках адноўленыя сённяшнімі ўмельцамі. Краты на вокнах магазінаў — ручное каванне, работа варшаўскіх рамеснікаў — нібы вывязаныя спрытнымі пальцамі рукадзельніцы. «Дом пад неграм», «Дом пад караблём», рэстаран «Пад кракадзілам»... Над пад'ездам кожнага дома — адпаведная лепка, што калісьці не толькі была ўпрыгожаннем, але і замяняла сабой нумарацыю. Трох-, чатырохпавярховыя домікі — па два, па тры акны — стаяць зусім упрытык, замыкаючы прамавугольнік плошчы ў чатыры суцэльныя сцяны. Над сценамі — дзівоснае нагрувашчанне дахаў, бясформенных, як горны хрыбет.

Працяг на стар.4

ЧАМУ ГАЙНАЎШЧЫНА АПОШНЯЯ

## РЭЗЕРВЫ ЎРАДЖАЙНАСЦІ

**На артыкул, які заклікаў шукаць прычыны адставання сельскай гаспадаркі Гайнаўскага павета, першы адклікнуўся сакратар па сельскагаспадарчых справах павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы Рышард Дваракоўскі.**

Сельская гаспадарка Гайнаўскага павета можа і павінна развівацца шмат хутчэй, бо тут, на Гайнаўшчыне, рэзервы і магчымасці на многа лепшыя, чымсьці ў іншых раёнах Беластоцкага ваяводства.

Аднак цяперашні стан, на жаль, не дае падставы, каб радавацца. Тэмп павышэння ўраджайнасці збожжа, развіццё жывёлагадоўлі і продаж гэтага ўсяго для дзяржавы ўсё яшчэ адпіхаюць Гайнаўшчыну ў «куток» — ніжэй сярэдніх паказчыкаў для ўсяго ваяводства. Выпярэджваюць нас, для прыкладу, Граеўскі, Кольненскі і Сакольскі паветы, сяляне якіх маюць падобныя ўмовы для гаспадаравання, як у Гайнаўскім павеце.

Вось у мінулым 1969 годзе сярэдні ўраджай для ўсёй Гайнаўшчыны склаў 17,3 цэнтнера збожжа з гектара. Гэта самы высокі ўраджай ва ўсёй гісторыі Гайнаўскага павета. Калі аднак гэты ўраджай параўнаць з ўраджаем з 1966 года, дык аказваецца, што наступіў прырост усяго на 2,8 цэнтнера. Гэта, на жаль, недастатковы і нездавальняючы прырост. Ён ніжэйшы ад сярэдніх паказчыкаў для ўсяго ваяводства.

Яшчэ больш некарысна для Гайнаўскага павета выпадае параўнанне развіцця жывёлагадоўлі. У гэтай галіне сельскай гаспадаркі гаспадары з Гайнаўскага павета на працягу трох апошніх год дабіліся прыросту толькі на 3,3 штукі на кожных 100 гектарах зямельных угоддзяў. У той час у ваяводстве гэты прырост быў амаль удвая вышэйшы. Паводле дадзеных з чэрвеня 1969 года, у Гайнаўскім павеце на 100 гектараў зямельных угоддзяў прыпадала ледзь 36,3 штук кароў, у ваяводстве — 47,2 штук. Яшчэ горш гэтае параўнанне выпадае ў свінагадоўлі: у ваяводстве значны прагрэс, на Гайнаўшчыне — зніжэнне.

Сяляне Гайнаўшчыны не змаглі нават пракарміць жыхароў свайго павета. У 1968 годзе жыхары Гайнаўшчыны купілі на 3200 тон мукі, кашы і прамысловага корму для жывёлы больш, чымсьці прадалі збожжа сяляне. У ваяводстве з кожнага гектара, які быў абсеяны збожжам, ішло на продаж 67 кілаграмаў збожжа, гайнаўскія сяляне прадавалі аж на 15 кг менш.

Галоўнай прычынай такога стану з'яўляецца тое, што значная колькасць уласнікаў гаспадарак і многія ўстановы, працуючы для патрэб вёскі, не выкарыстоўваюць як след усіх сродкаў, якія зараз прызначаюцца для развіцця сельскай гаспадаркі. Перш за ўсё, гэта адносіцца да прымянення мінеральных угнаенняў, пабудовы сіласаў, да выкарыстання спрыяльных умоў для гаспадарчага будаўніцтва ў вёсках і грашовай карысці пры кантрактацыі збожжа.

Працяг на стар.4



У лесе. Фота: Міхась Зубрыцкі

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### РОЗНІЦЬ І ЯДНАЕ

Канферэнцыя кіраўнікоў арабскіх краін, якая адбылася ў Рабаце, заявіла, што арабскі свет і надалей з'яўляецца падзеленым. Паасобныя арабскія дзяржавы, хаця і згодны ў сваім «не» для агрэсіўнай палітыкі Ізраіля, не маюць супольнай праграмы на «так». Зрэшты, гэтыя справы былі вядомыя і перад канферэнцыяй.

Адрозненні паміж паасобнымі арабскімі краінамі вынікаюць з адрозненняў як у грамадскім ладзе, так і ў ідэйных кірунках, якія падзяляюць, напрыклад, феадальную Саўдаўскую Аравію і Сірыю. Розніца вынікае і з гаспадарчых прычын (напрыклад, надзвычай багаты нафтай Кувейт і бедная Іарданія), і з прычыны геаграфічнага становішча: Іарданія ці ААР непасрэдна закрануты вынікамі агрэсіі і частка іх тэрыторыі акупаваная, а для Марока, якое захоўвае арабскую салідарнасць, справы Блізкага Усходу з'яўляюцца справамі, што адбываюцца за тысячы кіламетраў.

Аднак нельга не заўважыць у арабскім свеце таго, што прагрэсіўныя і антыімперыялістычныя тэндэнцыі з'яўляюцца фактам, і гэта мае гістарычнае значэнне. Трэба аднак памятаць, што гэтыя тэндэнцыі выступаюць на фоне вельмі складанай сітуацыі.

Пасля канферэнцыі ў Рабаце звяртаюць на сябе ўвагу дзве з'явы: 1. разгортванне незалежнага руху палестынцаў як самастойнага, трывалага і моцнага элементу на Блізкім Усходзе і 2. збліжэнне між ААР, Лівіяй і Суданам. Маніфестацыяй гэтага збліжэння былі візіты прэзідэнта Насера ў Лівію і Судан, а таксама канферэнцыя міністраў замежных спраў, якая адбываецца ў Егіпце.

### ЖЫВЕМ ДАЎЖЭЙ

Спецыяльная камісія ААН сцвярджае, што колькасць насельніцтва на свеце, якая ў 1965 годзе дасягала 3.289 мільёнаў чалавек, у 1985 годзе ўзрасце да 4.934 мільёнаў.

Камісія сцвердзіла таксама, што ў 1960—1965 гадах значна павялічыўся ў сярэднім узрост людскога жыцця. У развітых краінах ён вагаецца ад 66 да 71 года, а ў маларазвітых — ад 35 да 58 гадоў. Усё гэта з'яўляецца вынікам дасягненняў медыцыны і ўзросту гігіены. Да паловы XIX стагоддзя сярэдні ўзрост людскога жыцця ніколі не перавышаў 35 гадоў, а на пачатку XX стагоддзя — 50 гадоў.

У 1980 годзе агульная колькасць жыхароў гарадоў на свеце дасягне 1.345 мільёнаў чалавек.

### ЧАМУ ЗМАГАЕМСЯ ЗА РАЗЗБРАЕННЕ?

Ва ўсіх краінах свету ў мінулым годзе выдаткавана для ваенных мэт 185 мільярдаў долараў, у той час, як у 1964 годзе яны не перавышалі 132 мільярды долараў. Лік 185 мільярдаў долараў азначае, што гэтыя выдаткі большыя, чым у якім-небудзь іншым часе за выключэннем кульмінацыйных гадоў другой сусветнай вайны. За перыяд 1962—1969 г.г. яны павялічыліся на 50%.

**А. К.**



## БССР

### МІЦКЕВІЧ

У Мінску адбылася прэс-канферэнцыя, у час якой з паведамленнем аб перспектывах развіцця сельскай гаспадаркі рэспублікі выступіў сакратар ЦК КП Беларусі **У. Міцкевіч.**

Капіталаўкладанні ў беларускую сельскую гаспадарку павялічыліся за апошнія пяць гадоў з 184 мільёнаў рублёў да 385 мільёнаў рублёў. Асабліва дабратворны ўплыў на рост прадуктыўнасці земляробства мае павелічэнне мінеральных угнаенняў. У апошнія гады павялічваецца аплата працы калгаснікаў і рабочых саўгасаў. У сувязі з тым Міцкевіч зазначыў м. ін.:

«Дабіваючыся росту вытворчасці прадукцыі, трэба ўдзяляць асаблівую ўвагу зніжэнню затрат працы, эканомна выдаткоўваць матэрыяльныя і грашовыя сродкі на яе вытворчасць».

Ад добрай рэалізацыі таго залежыць далейшае павелічэнне заробкаў у калгасах.

### БЕЛАРУСКУЮ

Адбылося пасяджэнне секцыі мастацкага перакладу Саюза пісьменнікаў Беларускай ССР. Абмеркавана, між іншым, прапанова Дзяржаўнага камітэта па друку пры Савеце Міністраў БССР выдання ў Беларусі перакладной літаратуры дзвюма серыямі — **«Лепшыя творы сусветнай літаратуры»** і **«Галасы сяброў».** У першай серыі будуць выдавацца творы класічнай і сучаснай сусветнай літаратуры ў перакладзе на беларускую мову, у другой — лепшыя творы братніх савецкіх літаратур краін сацыялістычнага лагера. Гэта будзе садзейнічаць упарадкаванню і значнаму пашырэнню выданняў у перакладзе на беларускую мову. Да гэтага часу выданне такіх кніжак у выдавецтве **«Беларусь»** мела юбілейны або «дэкадны» характар.

### «СМЯТАНІЧЫ»

Пабудаваны магутны рэтранслятар **«Смятанічы»,** ажурная вежа якога ўзвышаецца на 350 метраў. У глыбіні беларускага Палесся засвяціліся блакітныя экраны.

Цяпер ужо на 90 працэнтах тэрыторыі Беларусі можна прымаць перадачы тэлебачання.

### ЗАСЛОНАВА

Споўнілася 60 гадоў з дня нараджэння аднаго з кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў час Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза **Канстанціна Заслонава.** Гэта дата шырока адзначаецца на Віцебшчыне, дзе дзейнічаў Заслонаў.

### ТВОРЧЫХ

У Мінску адбыўся гарадскі аб'яднаны сход камуністаў творчых саюзаў і устаноў мастацтваў. Сход абмеркаваў задачы партыйных арганізацый па ўзмацненню ідэйна-палітычнай і выхаваўчай работы ў калектывах.

### ГУСАК

Памёр рэктар Брэсцкага педагагічнага інстытута **Сяргей Гусак,** літаратуразнаўца і крытык, змагар за далейшы росквіт беларускай літаратуры. Нарадзіўся ў 1930 годзе.

(С. Я.)



## ПОЛЬШЧА

### ВІЗІТ

На запрашэнне Старшыні Рады Міністраў Юзэфа Цыранкевіча прыбыў у Польшчу з афіцыйным візітам Старшыня ўрада Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі Ольджых Чэрнік з жонкаю. З запрашэннем да наведання Польшчы прэм'ер Цыранкевіч выступіў у чэрвені мінулага года падчас свайго візіту ў Чэхаславакіі. Рэвізіт прэм'ера Чэхаславакіі з'яўляецца далейшым крокам у галіне развіцця дружалюбных кантактаў паміж абедзьвюма брацкімі краінамі. У апошні час назіраецца ажыўленне брацкага супрацоўніцтва паміж Польшчай і Чэхаславакіяй.

### ПРЫЁМ

З нагоды 25-ай гадавіны навязання дыпламатычных адносін паміж часовым урадам Народнай Польшчы і ўрадам СССР міністр замежных спраў ПНР Стэфан Ендрыхоўскі выдаў у Варшаве прыём, у якім прыняў, між іншым, удзел пасол СССР у Польшчы Аверкій Арыстаў. Выступаючы ў час урачыстасці мін. Ендрыхоўскі падкрэсліў, што польскі народ ніколі не забудзе рашаючай ролі, якую адыграла гераічная савецкая армія ў вызваленні польскага народа і ахове яго перад фізічным знішчэннем.

### У ГАНДЛІ

План таварнага абароту на I квартал гэтага года прадугледжвае, што розьнічны продаж будзе вышэйшы, чымсьці ў аналагічным квартале мінулага года на 6,7 працэнта і дасягне звыш 100 мільярдаў злотых. Продаж мяса пабольшыцца ў параўнанні з I кварталам мінулага года на 3,1 прац., а продаж рознага роду марской рыбы — на 36 працэнтаў. Крыху зменшыцца ў продажы колькасць соленай сялёдкі, што звязана з цяжкімі ўмовамі лоўлі. Продаж living рознага роду тлушчаў пабольшыцца амаль на 8 працэнтаў.

### МЕЛІЯРАЦЫЯ

Як вынікае з доследаў, праведзеных Інстытутам меліярацыі і зялёных угоддзяў, змеліяраванне 1 гектара ўгоддзяў каштуе ў сярэднім каля 10.900 злотых і дае ў выніку ўзрост плёнаў у сярэднім на 35 працэнтаў, гэта значыць на 6 цэнтнераў з гектара.

### 100 000

На працягу 25-годдзя Народнай улады варшаўскія вышэйшыя навучальныя ўстановы выпусцілі каля 100.000 абітурыентаў. Такім чынам, што шосты ўласнік дыплома вышэйшай школы атрымаў яго ў сталіцы.

### «ДАРОГА ПЕРАМОГІ»

У сувязі з 25 гадавінай перамогі над фашызмам, якую адзначаць будзем у гэтым годзе, Польскае тэлебачанне падрыхтавала цыкл перадач пад загалоўкам «Дарога перамогі». Будуць яны ісці да чэрвеня гэтага года.

### НАРАДА

У Варшаўскім камітэце партыі адбылася нарада партыйна-гаспадарчага актыву сталічных навукова-даследчых інстытутаў, прысвечаная аналізу актуальнай іх сітуацыі і заданням у святле II і IV Пленума ЦК партыі. На нарадзе былі прааналізаваны заданні і перспектывы далейшага развіцця навукова-даследчай базы сталічнай прамысловасці.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### ПАДЛІКІ БУДАЎНІЧЫХ

Рабочыя Беластоцкага аб'яднання будаўніцтва ў мінулым годзе перадалі ў карыстанне 21 прамысловы аб'ект, звыш 120 тысяч квадратных метраў жылой плошчы, 177 школьных памяшканняў і многа будынкаў сельскагаспадарчага характару. Упершыню кошт усіх прац, якія ў мінулым годзе выконвалі будаўнічыя Беластоцкага ваяводства, перавысіў суму 1 мільярда злотых. Мінулагоднія вынікі будаўнічыя прааналізавалі на спецыяльным пасяджэнні калегіі дырэктараў будаўнічых прадпрыемстваў. Пасяджэнне адбылося 10 студзеня г.г. Удзельнічалі ў ім таксама сакратар Ваяводскага камітэта партыі С. Рубчэўскі і намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Е. Зентара.

### ЗІМА

Сёлетняя зіма не пашкадавала нам ні марозу, ні снегу. Асабліва надакучыла яна камунікацыйным прадпрыемствам. Вось у апошнюю нядзелю (11 студзеня г.г.) аўтобусы ПКС не адправіліся з Беластока ў Бельск, Орлю, Рафалоўку, Цехановец, Сямяцічы, Драгічын і ў многія іншыя мясцовасці. З Гайнаўскага павета паведамляюць, што многа аўтобусаў затрымалася ў горбах снегу.

### ВЫПУСКНІКІ

У Высокамазавецкім павеце закончыла школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі звыш 1000 маладых сялян.

### ДОБРЫ ГАСПАДАР

Язэп Граматовіч з Даратынкі на сваёй 10-цігектарнай гаспадарцы дабіўся ў мінулым годзе высокага ўраджаю: жыта — 28 цэнтнераў з аднаго гектара, а ячменю — 30 цэнтнераў. Граматовічу ўжо 65 год. З'яўляецца ён вялікім прыхільнікам пчалярства.

### У ГАЙНАЎЦЫ...

...адбылася сесія гарадской рады нарадовай, якая разглядала бюджэт на 1970 год. На патрэбы горада ў гэтым годзе прызначаецца 10 мільёнаў 130 тысяч злотых. Радныя вырашылі, што найбольш грошай трэба прызначыць на гаспадарчыя патрэбы школ, дзіцячых садоў і ясляў, на патрэбы гарадской дарожнай службы і ачыстку горада. На рамонты жылых будынкаў адпускаецца звыш мільёна злотых. У 1970 годзе Гайнаўка атрымае прыгожы цэнтр здароўя і яслі для 80 дзяцей.

### У ОРЛІ

Вучні пачатковай школы ў Орлі абсталявалі для сваёй школы ледзяную пляцоўку для зімовых гульняў.

### КРЭДЫТ

Кольненская ашчадна-пазыковая спулдзельня прызначыла на крэдыт для сялян звыш 11 мільёнаў злотых.

### КУРСЫ

Беластоцкі рабочы ўніверсітэт, які працуе пад апекай ЗМС, наладзіў курсы для кандыдатаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Заняткі адбываюцца два разы ў тыдзень. Вядуць іх навуковыя працаўнікі беластоцкіх вышэйшых школ.

(вр)




**Niedziela, 18 stycznia**

8.20 Program dnia. 8.25 TV Kurs Rolniczy: „Rasy bydła w Polsce". 9.00 „Przypominamy, radzimy". 9.10 Dla młodych widzów: „Czterej pancerni i pies". 10.20 „W starym kinie". 11.25 „Architektura zabytkowa Warszawy" („Szlakami zabytków"). 11.55 Dziennik. 12.10 „Porównania". 13.15 Konkurs skoków narciarskich o Puchar Beskidów w Wiśle. 14.00 PKF. 14.15 Program z Kijowa i Krakowa. 15.25 Dla dzieci: A. Żurowski — „Pałac Kurkowego Króla" — baśń teatralno-baletowa. 16.15 „Smak zemsty" — film TVP („Przygody pana Michała"). 16.45 „Turniej wiedzy o Warszawie". 17.40 Program rozrywkowy. 18.30 Estrada Literacka: „Z ruin powstała". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Joe Makbet" — film fab. USA. 21.30 „Najpiękniejsza jest muzyka polska". 22.15 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 19 stycznia**

14.25 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.40 „Echo Stadionu". 18.00 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.30 Film rozrywkowy. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: H. Rousseau — „Zemsta sieroty". 21.05 „Lektury współczesne". 21.20 „Śpiewa Eva Olmerova" — film estradowy. 21.45 „Na wielkim ekranie". 22.15 Dziennik.

**Wtorek, 20 stycznia**

8.15 „Letni deszcz" — film fab. radz. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) — „W hucie żelaza". 10.20 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. XI i III lic.) Język polski — B. Brecht — „Matka Courage". 11.35 Przerwa. 12.00 „Wybieramy zawód". 12.20 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Nawozy fosforowe i potasowe". 13.15 Przerwa. 14.35 i 22.40 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.45 „Wyspa bez ziemi" — film Tele-Aru („Z kamerą po świecie"). 19.00 „Wieczorne rozmowy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Kino Interesujących Filmów: „Letni deszcz" — film fab. radz. 21.50 „Kontakty". 22.20 Dziennik.

**Środa, 21 stycznia**

9.00 „Ścigany" — film. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Ampery i wolty". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Świat atomów i cząsteczek". 11.25 Przerwa. 14.25 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „O Jasiu grajku i królowej Bonie". „Trzeci wieczór baśni". 17.20 TV Kurier Warszawski. 17.35 Magazyn ITP. 17.45 „Uczelnie i przemysł" 18.15 „Wyprawy" — film. 18.40 „Lenin w pamięci Polaków". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Studio 63: W. Majakowski — „Trzynasty apostoł". 21.05 „Światowid". 21.35 PKF. 21.45 Ścigany" — film. 22.35 Dziennik.

**Czwartek, 22 stycznia**

8.15 „Matematyka w szkole": „Pochodna funkcji" cz. I. 8.45 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Akademia w Rakowie". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Cesarstwo rzymskie". 12.25 Przerwa. 12.45 i 13.55 Mechanizacja Rolnictwa: „Mechanizacja zabiegów ochrony roślin". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.50 Politechnika TV I roku. Chemia. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.55 „Trzy opowieści". 18.25 TV Kurier Białostocki. 18.40 „Przegląd Muzyczny". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Dialogi historyczne". 20.35 „Świadek w mieście" — film fab. fr. 22.00 „Szlakiem dobrej roboty". 22.30 Dziennik.

**Piątek, 23 stycznia**

10.00 „Gorzkie dno rzeki" — film fab. jug. 11.45 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Zajęcia techniczne: „Rysunek techniczny". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.50 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: — Aula — Sesja IX, — „Zrób to sam". 17.50 TV Kurier Mazowiecki. 18.05 „Nie tylko dla pań". 18.25 „Statki przyszłości" („Perspektywy techniki"). 18.55 „Gramy o telewizor" — teleturniej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Bułat i szabla" — film TVP („Przygody Pana Michała"). 20.35 „Lektury współczesne". 20.45 Teatr TV. 22.05 „Styczniowe dni" — program związany z 25 rocznicą wyzwolenia Śląska i Zagłębia. 22.30 Dziennik.

**Sobota, 24 stycznia**

9.20 „Film z czarującą dziewczyną" — film fab. rum. 10.55 Dla szkół (kl. V) Geografia: „W tundrze i tajdze syberyjskiej". 11.25 Przerwa. 14.20 Program dnia. 14.25 Telewizyjny Kurs Rolniczy: „Racjonalna produkcja mleka". 15.00 Wychowanie fizyczne naszych dzieci. 15.10 Program tygodnia. 15.30 Przerwa. 16.25 Program dnia. 16.30 „Oferty". 16.40 Dziennik. 16.50 Teatr Młodego Widza: A. Korta, T. Nowak — „Gniewko, syn rybaka" cz. III. 17.50 „Spotkania z przyrodą". 18.15 „Gra Orkiestra Ireneusza Wikarka". 18.35 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 „Monitor". 20.20 „Film z czarującą dziewczyną" — film fab. rum. 21.50 Dziennik. 22.10 „Piosenki z Bratysławy". 23.10 „Beatrice" — nowela filmowa fr.




**Piątek, 16 stycznia**

8.00 Nowiny. 8.15 „Cuda przyrody". 8.45 „Detektyw wiejski". Film fab. 10.00 „Gdzie żył Lenin". 10.20 Nowiny. 14.55 Program dnia. 15.00 Nowiny. 15.15 „Droga do wielkiego ringu". 15.35 „Kronika pięciolatki". 16.05 „Panorama nowin". 16.20 Film animowany dla dzieci. 16.30 „Czyn". 17.00 „W. Lenin. Kronika życia i działalności". 17.35 Przedstawienie teatralne. 18.35 „Sztafeta nowin". 19.15 Spektakl TV. 20.15 Mistrzostwa ZSRR w jeździe na lodzie. Kobiety. 21.15 Nowiny.

**Sobota, 17 stycznia**

8.15 Program muzyczny. 8.45 TV barwna. 9.15 Przegląd międzynarodowy. 9.30 Film animowany dla dzieci. 9.50 „Etapy zwycięskiej drogi". 10.15 „Białe i czarne". 10.45 „Na skrzyżowaniach planety". 11.30 TV barwna. 12.30 Uniwersytet ludowy. 14.00 „Kronika półwiecza". Rok 1919. 14.50 Nowiny. 15.00 Teatr dla dzieci. 16.00 Nowiny. 16.05 Mistrzostwa ZSRR w jeździe na lodzie. Mężczyźni. 18.00 Program poświęcony wyzwoleniu Warszawy. 18.30 Przegląd tygodnia. 19.00 „Świat socjalizmu". 19.30 „Krok decydujący". Film fab. I seria. 21.00 „W świecie słowa, obrazów i kolorów". 22.00 Nowiny.

**Niedziela, 18 stycznia**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 „Godzina wiejska". 9.30 „W jednej rodzinie". 10.05 Ekran dla dzieci. 10.15 Dla uczniów. 11.15 Spektakl teatralny. 13.45 Nowiny. 14.00 Dla żołnierzy. 14.30 Program Turkmeńskiej TV. 16.00 Koncert. 17.00 „Klub filmowy". 18.00 W eterze „Młodość" 19.00 „Ameryka, rok 1969". Film dokument. 20.00 „Krok decydujący". Film fab. II seria. 21.10 Nowiny.

# БГКТ і ЗМВ у МІЛЕЙЧЫЦАХ

У Мілейчыцах адбылася супольная нарада Беларускага таварыства і ЗМВ. 21 снежня 1969 года. Нарада, як нарада: спачатку гавораць кіраўнікі.

— Нашы гурткі Беларускага таварыства супольна з гурткамі ЗМВ праводзяць розныя мерапрыемствы. Напрыклад, арганізавалі фэст у Мілейчыцах і адзінаццаць сустрэч у вёсках з дзеячамі, якія змагаліся за народную ўладу. Адбылося ў гэтым годзе дваццаць сем выставак, васемнаццаць кінасеансаў савецкіх фільмаў у спалучэнні з гутаркамі аб 25-годдзі Народнай Польшчы. Усе гурткі Беларускага таварыства, супольна з партыйнымі арганізацыямі і ЗМВ, актыўна ўключыліся ў грамадскія чыны. Бо тыя самыя людзі належаць да Беларускага таварыства і да ЗМВ, а многія і да партыі.

Як журналіст «Нівы» магу яшчэ дадаць, што ідэя супрацоўніцтва Беларускага таварыства з усімі арганізацыямі найбольш рана праявілася ў мілейчыцкім аддзеле БГКТ. Яго інструктар, **Міхась Вішанка**, пісаў аб ідэі ўжо ў 1965 годзе ў «Беларускім календары».

У Мілейчыцах адразу стварылі аж два мастацкія аматарскія гурткі. Уводзіцца беларускі рэпертуар насуперак энтузіястам «Гуральскі-Галькі»... ды іншай цыганіяны. У Вілінаве, вёсцы глухой і далёкай, будуюць дом культуры. Сваімі вясковымі сіламі будуюць. Там гаспадарыць настаўнік Анатоль Мартыновіч, кіраўнік павятовай арганізацыі Беларускага таварыства. У Літвінавічах будуюць пажарніцкі басейн, у Рагачах — рамізу.

Загаварылі і іншыя. **Сяргей Арэшук** з Клюковіч: «Патрэбны нам клуб гаспадара. Замала нам беларускіх фільмаў, хочам пазнаць кінематаграфію Беларусі. Неабходна нам дапамагчы ў ажыўленні культурнага жыцця, аказаць падтрымку нашым настаўнікам, якія арганізуюць самадзейны рух». **Мікалай Свентахоўскі** з Зубачоў: «Цешымся, што «Лявоніха» будзе дапамагаць самадзейным гурткам, і мы спадзяемся яе падмогі. Будынак на святліцу ў Зубачах можна знайсці, а Сямяцічы павінны дапамагчы аплатаю рамонту». **Святаслаў Хурсовіч** з Мілейчыц: «Ёсць у нас два самадзейныя гурткі: адзін БГКТ-оўскі, другі ЗМВ-оўскі. Хочам супольна падрыхтаваць мантаж у 100-годдзе нарадзін Леніна». **Сяргей Крэйза,** кіраўнік грамадскага асяродка культуры ў Мілейчыцах: «Ёсць у нас інструменты, ёсць моладзь, ахвотная да бескарысных учынкаў, ёсць памяшканне. Вечарыны, чыны, імпрэзы. Непакоіць мяне, чаму ЗМВ, як арганізацыя палітычнага тыпу, занядбоўвае палітычную работу сярод моладзі? Не дэманструе перш за ўсё палітычных якасцей?!» **Анатоль Хурсовіч** не зусім згадзіўся з Крэйзай: «Сам факт шырокай адукацыі моладзі ўжо стварае пэўны палітычны ўзровень яе. А высокаадукаваныя — гэта нашы нявыкарыстаныя кадры палітычна-асветных дзеячаў». **Сымон Шыманюк,** прадстаўнік беластоцкага кіраўніцтва БГКТ, цікава задумаўся: «Калі ёсць фестываль песні савецка-рускай у Зялёнай Гуры, а польскай ў Аполі, дык чаму б не падумаць аб тым, каб у Беластоку мець фестываль беларускіх песень? А чаму мы закінулі думку аб беларускім народным тэатры ў Беластоку, пачаткі якога ўжо рунелі?». Фактычна, у Мілейчыцах больш беларушчыны, чым у вялізным Беластоку.

**Ендрусяк Францішак,** член кіраўніцтва павятовай арганізацыі ЗМВ, не прапусціў ні слова з дыскусіі. Але ён адначасова памятаў аб тым, што знаходзіцца на нарадзе арганізацыі, а не ў міністэрстве ў час чарговай прапановалогіі. Памятаў, што ў арганізацыі на першым месцы дык (ідэя), а ўчынкі — толькі вынікі таго. Усюды моладзь добрая і нявыкарыстаная, усюды з марамі аб учынках нязвыклых, гераічных! БГКТ, як і ЗМВ: на моладзі стаіць.

Загаварыў:

— Гераізм нашага часу — гэта гераізм пастаяннай працы, гераізм вытрываласці. Хто сказаў, што гераізму патрэбны вайна, смерць? Гераізму патрэбны якраз не смерць ды няшчасці, але жыццё, праца. Гераізм — гэта цяжкая праца. Вельмі цяжкая!

Ад слоў **Ендрусяка** раблю вывад:

— Гераізмам ёсць узараць нівы беларускія ў пустыні сэрцаў людзей нашых, ад вякоў пераконваемых у сваёй бясплоднасці, ялавізне. Яны зусім нядаўна сталі людзьмі звацца: 25 год таму назад, на світанні Народнай Польшчы.

**С. Я.**

## НА ЎРОКУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ



**Пачатковая школа № 2 у Гайнаўцы. Клас IV Д. Урок беларускай мовы вядзе Зінаіда Плева. Пры табліцы Гражынка Калiноўская**



**Той жа клас і ўрок. Чытае Гражынка Жураўская.**
**Фота Цаф — Сянько**

## ФАЛЬКЛОР

### А У ПОЛІ БЯРОЗА
**(рэкруцкая)**

А у полі бяроза, яна тонка, высока, гэй!
яна тонка, высока...
Яна тонка высока, на карэньне глыбока, гэй!
на карэньне глыбока...
На карэньне глыбока, на ёй лісьцё шырока, гэй!
на ёй лісьцё шырока...
На ёй зязюлькі кавалі, салавейкі сьвісталі, гэй!
салавейкі сьвісталі...
Як сьвісталі, так сьвішчэце, мне рэкруціка паймеце, гэй!
мне рэкруціка паймеце...
Мы рэкруціка спаймалі, назад ручэнькі звязалі, гэй!
назад ручэнькі звязалі...
Назад ручэнькі звязалі, да прыёму адаслалі, гэй!
да прыёму адаслалі...
Вязьлі мяне да прыёму, а я думаў, што да дому, гэй!
а я думаў, што да дому...
Вязьлі мяне да чугункі, а я думаў, што да жонкі, гэй!
а я думаў, што да жонкі...
Вязьлі ў Беласток, а я дурань, што не ўцёк, гэй!
а я дурань, што не ўцёк...
Як засну, то забуду, як прачнуся, то баюся, гэй!
як прачнуся, то баюся...
Як прачнуся, то баюся, сьлязынькамі абальюся, гэй!
сьлязынькамі абальюся...
Сьлязынькамі абальюся, краснай хусткай абатруся, гэй!
краснай хусткай абатруся...

### А У ПОЛІ САСНА

**А у полі сасна, пад сасною вішня,**
**Уся уся радзіна на гулянье выйшла.**
**Гуляла, гуляла, мядок папівала,**
**а ў той крынічыньцы вада высыхала.**
**У крынічыньцы высхне, у рэчыньцы прыбудзе.**
**Пампрэ ацец, матка — гасьціны не будзе.**
**Пампрэ ацец, матка, уся мая радзіна,**
**Астануся у сьвеце адна — сіраціна.**
**Плыве вада у рэчцы, беражочкі зносіць.**
**Родны брат сястронку у гасьціну просіць.**
**Братавая міла, не паглядай скрыва,**
**бо маей сястронцы не што дня гасьціна.**

### А У ЛУЗІ, ЛУЖОЧКУ...

А у лузі, лужочку трава траву павіла
ой люлі, дый люлі,
трава траву павіла.
Трава траву павіла, жоўтым цьветам зацьвіла,
ой люлі, дый люлі,
жоўтым цьветам зацьвіла.
Жоўтым цьветам зацьвіла, майго мілага німа,
ой люлі, дый люлі,
майго мілага німа.
Паслала б я малойца да матанькі, да айца,
ой люлі, дый люлі,
да матанькі, да айца.
Паслала б я малога, малы пісьма не знае
ой люлі, дый люлі,
малы пісьма не знае.
Малы пісьма не знае, усё дарожкі пытае
ой люлі, дый люлі,
усё дарожкі пытае.
Паслала б я старога, стары туды не дайдзець,
ой люлі, дый люлі,
стары туды не дайдзець.
Стары туды не дайдзець, на дарожаньцы памрэць,
ой люлі, дый люлі,
на дарожаньцы памрэць.

**Гэтыя песні запісаныя Л. Войцікавай у 1913 годзе ў ваколіцах Новага Двара, Дуброўскага павета.**

ТЭОРЫЯ ЛІТАРАТУРЫ

## ПРАЗАІЧНАЯ І ВЕРШАВАНАЯ МОВА

Праграма навучання беларускай мовы для пачатковых школ значнае месца адводзіць вывучэнню вершаскладання. З асаблівасцямі вершаванай мовы вучні знаёмяцца ў V класе, а з рытмам і рыфмай у класах VI—VII.

Пачынаючы вывучэнне гэтага матэрыялу, трэба ўлічваць, што пяцікласнікі практычна ўжо ўмеюць адрозніваць вершы ад прозы, праўда, пераважна па знешніх прыкметах, маюць уяўленне аб страфічнай будове вершаў, заўважаюць рыфму. Горш справа выглядае з засваеннем рытму.

Вершаваныя творы адрозніваюцца ад празаічных тым, што ў іх мова р ы т м і з а в а н а я, гучыць чотка, размерана. Гучанне празаічных і вершаваных твораў можна параўнаць з хадой людзей, калі яны, у адным выпадку, проста, свабодна, як бывае кожны дзень, ідуць па вуліцы, і ў другім — калі яны маршыруюць на дэманстрацыі або на святочным парадзе, мерна адбіваючы крок. У абодвух выпадках людзі ідуць, але ідуць па-рознаму, прычым на парадзе такой зладжанай, размеранай хадзе звычайна спадарожнічае і ўрачысты, прыўзняты настрой. Вершаваная мова ў адрозненне ад паўсядзённай, празаічнай — мова рытмічная, строга арганізаваная і больш эмацыянальная. Чытанне вершаў звычайна выклікае пэўны настрой, і, калі ў чалавека радасць або сум, можа ўзнікнуць жаданне звярнуцца да верша.

Галоўнай адзнакай вершаванай мовы з'яўляецца рытм. Р ы т м — гэта раўнамернае паўтарэнне якіх-небудзь з'яў: рухаў (у танцы), гукаў (у музыцы). У вершы рытм ствараецца мерным чаргаваннем націскных і ненаціскных складоў, паўтарэннем радкоў.

Націскны склад разам з ненаціскнымі, якія прымыкаюць да яго, утварае с т а п у. Стоп у радку звычайна бывае столькі, колькі націскных складоў.

Стопы бываюць двухскладовыя і трохскладовыя. Двухскладовых стоп дзве: харэй і ямб.

Х а р э е м наз. двухскладовая стапа, у якой націск падае на першы склад.

Я м б — гэта двухскладовая стапа з націскам на другім складзе.

Акрамя двухскладовых стоп, ёсць яшчэ трохскладовыя стопы: дактыль, амфібрахій і анапест. Аднак пра іх шырэй пісаць не будзем.

У наступным адрэзку аб размерах верша і яго рыфме.

(А-К)




### «БЕЛЬСКІЯ МУЗЫКІ»

**Wydział Oświaty i Kultury w Bielsku Podlaskim po zapoznaniu się z treścią notatki w Tygodniku „Niwa" z dnia 14.XII.1969 r. zatytułowanej „Bielskija Muzyki" stwierdza co następuje:**

**1) Notatka została zredagowana na podstawie nieodpowiadających prawdzie informacji prywatnych bez zasięgnięcia opinii władz i organizacji społecznych naszego powiatu.**

**2) Treść notatki została podana w formie złośliwej i godzi nie tylko w osobę Ob. Sadlickiego, ale również stwarza niewłaściwą atmosferę wokół zagadnienia rozwoju kultury muzycznej naszego powiatu.**

**3) Całokształt działalności Ob. Sadlickiego w kierunku rozwoju społecznego ogniska muzycznego oraz organizacji przyszłej szkoły muzycznej opiera się na wytycznych udzielonych przez władze naszego powiatu. Z powierzonych mu obowiązków wywiązuje się Ob. Sadlicki ku pełnemu zadowoleniu zarówno władz jak organizacji społecznych oraz całego środowiska. Przeszło trzyletnia działalność Ob. Sadlickiego na naszym terenie przyniosła już doskonałe rezultaty w dziedzinie rozwoju kultury muzycznej.**

**4) Uważamy, że wymieniona notatka krzywdzi Ob. Sadlickiego jako rzetelnego pracownika i działacza społecznego i stanowić może przeszkodę w dalszej, tak dobrze rozpoczętej działalności.**

**Z-ca inspektora d/s Kultury**
**Antonina Kuna**

# РЭЗЕРВЫ ЎРАДЖАЙНАСЦІ

Пачатак на стар. 1

Для прыкладу, палічым затраты сялян і гаспадаркі павета ў цэлым — гэтыя затраты вынікалі з таго, што ў 1968/69 гаспадарчым годзе на складах ГС-аў засталося амаль 1400 тон штучных угнаенняў. Маем на думцы тут хімічна чыстае рэчыва, а не агульную масу мінеральных угнаенняў.

Ва ўмовах Гайнаўскага павета павышэнне ўгнаення на 1 кг НПК дае прырост ураджаю на 5 кг збожжа з аднаго гектара. Гэта ўжо рэч праверапая.

Дык каб гэтыя 1400 тон хімічна чыстага рэчыва мінеральных угнаенняў, што засталіся на складах, знайшліся былі на палях, сяляне Гайнаўскага павета атрымалі б дадаткова 7 тысяч тон збожжа. Вось дзе рэзервы ўраджайнасці! Гэта шанцы для Гайнаўскага павета, шанцы поўнасцю рэальныя. Мы ж атрымалі б удвая больш збожжа, чым зараз прыходзіцца нам прывозіць з іншых раёнаў ваяводства і краіны. Калі б гэтае збожжа сяляне прадалі дзяржаве, атрымалі б звыш 20 мільёнаў злотых. Адлічыўшы кошт штучных угнаенняў, засталося б для іх яшчэ 14 мільёнаў чыстага даходу.

Гэтыя затраты, зразумела, адносяцца не да ўсіх сялян, а толькі да тых, якія або зусім не прымяняюць штучных угнаенняў, або прымяняюць іх вельмі мала, а такіх гаспадароў назбіраецца ў нас тысячы дзве. Кожны з іх па сваёй лёгкадумнасці затрацілў магчымасць павялічыць свой даход на некалькі тысяч злотых.

Таму менавіта з такім націскам адносімся да поўнага выканання праграмы прымянення штучных угнаенняў, таму ўжо на працягу некалькіх апошніх год праблемам сельскай гаспадаркі вясковыя партыйныя арганізацыі і партыйны апарат адводзіць найбольш часу і ўвагі.

Нягледзячы на існуючыя недахопы, трэба падкрэсліць тыя вялікія пераўтварэнні, якія ў вёсках Гайнаўскага павета здзейсніліся на працягу мінулага 25-годдзя народнай улады. Беспаваротна адыйшлі з нашых вёсак цапы, сярпы і вазы на жалезных калёсах. Ураджай, хаця яшчэ незавідны, павялічыўся ўдвая. У некаторых раёнах павета сяляне гаспадараць ужо так добра, што іх вынікі шмат перавышаюць сярэднія паказчыкі ўсяго ваяводства. Справа толькі ў тым, каб усе сяляне даганялі перадавых гаспадароў.

**Рышард Дваракоўскі**
сакратар павятовага камітэта
ПАРП у Гайнаўцы

# МАЯ ВАРШАВА

Пачатак на стар. 1

Усё гэта было нядаўна руінамі.

Рукамі хочацца пакратаць параненыя фашысцкімі кулямі рэшткі старой сцяны, сям-там пакінутыя на памяць. Удзень яшчэ прыйдзем сюды, каб лепш разгледзець размалёўку сцен, надпісы на памятных дошках і на старых, таксама адноўленых, шыльдах, каб прайсціся ўгару па чысценькіх, вітых усходах пад'ездаў, каб выпіць «пад кракадзілам» сярэдневяковы кухаль сучаснага піва...

Чуем другую легенду Старога Мяста — новую легенду нашых дзён. Былі варшавяне, якія страцілі веру, што горад іх можа ўзняцца з руінаў. Іх было значна менш, чым тых, хто верыў. Ды вось і душу слабога перавярнуў, узяў сапраўдны цуд аднаўлення. Людзі прыходзілі сюды і на каленях, са слязьмі цалавалі старадаўні брук, абапал якога ўзняліся гмахі ва ўсёй іх, нібы некранутай, яшчэ мілейшай колішняй красе. Аб гэтым цудзе гаворыць надпіс на сцяне: «Рынак Старога Мяста. Урад Народнай Польшчы вярнуў яго народу ў 1951—1953 гадах».

...Спакойнай ночы, Варшава!

Я зноў гляджу з акна, і хоць зрок мой заключаны ў сцены гасцінічнага двара, бачу красу тваю, ахутаную паволокай ціхай вераснёўскай ночы. Чую песні, якіх тут не змог заглушыць грукат падкутых фашысцкіх ботаў, — «непадлеглыя песні падбітага народа», як гаварыў у тыя дні адзін з тваіх рэвалюцыйных песняроў. Чую і новую, вольную песню тваю, што хутка, як толькі зардзіцца ўсход, зноў залунае над табою...

**(Урывак з кнігі «Вачыма друга»)**

# АСАБЛІВАСЦІ КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЦЯ ГАЙНАЎСКАГА ПАВЕТА

Яго цэнтр — гордая Гайнаўка, якая вырастае на вялікі горад з бурлівым і актыўным культурным жыццём. Сістэматычна два разы ў месяц выступаюць тут вялікія мастацкія калектывы, тэатры, аперэты, эстрады.

У самім горадзе тры дамы культуры. Развіваюцца пры іх і дзякуючы ім характэрныя для гайнаўскага раёна (характэрнасць гэтую прыдае, вядома, пушча) формы мастацтва: графіка, жывапіс, інтарсія (выпальванне плоскіх фігур у дрэве), разьба па дрэву. Таксама музычнае мастацтва. Яго асаблівасць — хоры. Хоры большыя і зусім маленькія ў Гайнаўцы маюць добры клімат для развіцця, бо хор тут слухаюць вельмі ахвотна. Гэта таксама звязана з духам гэтай зямлі, якая спрадвеку спявала разліўна і працяжна, і ў групе.

З навейшых форм — фатаграфія стала моднай.

У музычным грамадскім гуртку ў Гайнаўцы музычную адукацыю атрымлівае 85 дзяцей (крыху замала дзяцей рабочых).

Сярод дамоў культуры гайнаўскі Дом настаўніка здабыў найшырэйшае прызнанне, бо ва ўсім павеце. Вядзе ён планавую працу не толькі з гарадскімі асяроддзямі. У ім канцэнтруе сваю дзейнасць павятовы аддзел Беларускага таварыства.

Пры ім працуе таксама цікавы аматарскі тэатр Віктара Кабаца. Нават сумняваюся, ці ўласціва было б назваць гэты тэатр аматарскім? Шкада толькі, што тэатр надта рэдка і не сістэматычна дае свае прэм'еры.



Дом настаўніка ў Гайнаўцы.

У павеце акрамя традыцыйнага ўжо самадзейнага мастацкага руху (які падымае свае бурлівыя воды восенню і зімой, а амаль зусім высыхае летам), у апошні час па ініцыятыве вядучай гайнаўскай групы мастакоў Корзун — Кабац — Давідзюк гуртуюцца мастацкія аматары з вёсак, многа настаўнікаў.

Вясковая інтэлігенцыя гайнаўскай вёскі (вёска тут аднalітая па нацыянальнаму паходжанню, а што за тым, і па звычаях і абрадах) усё больш разумее, што яна многа можа зрабіць для захавання цікавых народных традыцый.

У культурна-асветнай дзейнасці слаба выкарыстоўваецца багацце народнай культуры, асабліва абрадавыя песні і танцы, цікавыя сітуацыйныя маналогі, прымаўкі. Новы год, адчуваем, прынясе тут змены. Бо заняліся гэтым правячыя кругі Гайнаўскага павета. Бачаць яны практычныя ўжо формы працы з народнай культурай. У Гайнаўцы ў апошні час аж бурліць на тэму: народная культура няхай выйдзе з куткоў на шырокі сучасны свет!

**(вл)**



**М. АНТЫПЕНКА**




Маршал Жукаў у апошні раз перад наступленнем выслухаў мой даклад аб забеспячэнні войск і сказаў толькі:

— І так, заўтра пачынаем.

Я падумаў: «Заўтра на світанні пачнецца бітва. Кінем на праціўніка 53 тысячы тон боепрыпасаў, якія мы з такім намаганнем завезлі на плацдармы... Дык няўжо начальнік тылу фронту не можа быць там, дзе ў гэты час вырашаецца поспех прарыву і лёс усёй наступальнай аперацыі?»

Звярнуўся з просьбай да Г. К. Жукава дазволіць мне прысутнічаць на яго назіральным пункце ў дзень прарыву. Атрымаў адказ: «Я камандую фронтам, а вы тылам, і кожны з нас павінен быць на сваім месцы ў гэты адказны момант». Я прамаўчаў, а сам сабе падумаў, што ў маім жаданні няма нічога заганнага: мне ж недаравальна не ўбачыць усёй панарамы прарыву, які, калі так можна сказаць, з'яўляецца вынікам доўгай працы таксама і тылу.

Даручыў свайму ад'ютанту маёру М. Свірыдаву ўвайсці ў кантакт з яго сябрам — ад'ютантам маршала і дакладна даведацца гадзіну ад'езду на НП, каб прыладзіцца ў след за імі. Справа ў тым, што НП знаходзіўся за ракою ў палесе 5-й ударнай арміі на Магнушэўскім плацдарме ў 500 метрах ад праціўніка. Каб туды трапіць, трэба было праехаць скрозь складаны лабірынт баявых парадкаў, і без вопытнага праваднікa даехаць туды было немагчыма.

Роўна ў 2 гадзіны ночы ў густой імгле мы з ад'ютантам Свірыдавым і шафёрам Грунем пад'ехалі на «вілісе» да доміка камандуючага, дзе ўжо стаяла яго машына, а таксама машына афіцэра-праваднікa. Ехаць у цемры па незнаёмай дарозе пры пагашаных фарах, не адстаючы ад машыны камандуючага, было цяжка. Праязджаючы па мосце праз Віслу, мы бачылі безупынныя выбухі зенітных снарадаў, перашкаджаючых авіяцыі праціўніка бяскарна праводзіць палёты.

Здавалася, мы былі цэлую вечнасць у дарозе. Аднак прайшло ўсяго гадзіны паўтары, і мы прыбылі на месца. Я пайшоў у бліндаж камандуючага арміяй генерала Берзарына; бліндаж камандуючага фронтам быў побач, у 100—150 метрах. Да назіральнай вышкі ішлі хады сувязі ад абодвух бліндажоў. Некалькі разоў Берзарын паглядваў на свой гадзіннік і звяраў яго з гадзіннікам камандуючага фронтам. Урэшце, ён запрасіў мяне на вышку.

Роўна ў 8 гадзін раніцы 14 студзеня 1945 года адкрыўся ўраганны агонь артылерыі. Дальнабойныя гарматы стралялі праз галовы сваіх войск, і ўспышкі іх выстралаў не асвятлялі нашу вышку. Але калі адкрылі агонь «кацюшы», якія стаялі побач з намі, стала відна, як днём. Камандуючы, убачыўшы мяне, спытаў:

— А вы як тут апынуліся?

Я адказаў:

— Прывёз на подпіс план матэрыяльнага забеспячэння наступальнай аперацыі — той самай аперацыі, якую ўжо пачалі. Праўда, па гэтым плане тыл даўно працуе, і ён вамі ўжо адобраны, але ўсё ж патрэбны ваш подпіс, хоць бы для гісторыі.

Камандуючы моўчкі ўсміхнуўся. Я застаўся на вышцы.

Па плану артылерыйскай падрыхтоўкі нам трэба было весці інтэнсіўны агонь яшчэ не менш гадзіны. Але прайшло не больш 25 мінут, як камандуючы фронту загадаў спыніць артылерыйскі агонь і рушыць войскі ў наступленне. Потым высветлілася, што гэта быў разумны загад, бо далейшая стральба прыпала б па пустым месцы: гітлераўскія войскі не вытрымалі агню і пачалі адыходзіць. Такім чынам, з запланаваных 53 тысяч тон боепрыпасаў было расстраляна не больш палавіны. Атрымалася эканомія каля 30 тысяч тон боепрыпасаў, і гэта мела выключнае значэнне для барацьбы з праціўнікам на завяршальным этапе аперацыі.

Планам аперацыі прадбачвалася пасоўванне войск на працягу першых васьмі сутак на глыбіню 120—150 кіламетраў з сярэднесутачным тэмпам 15—16 кіламетраў. Але ўжо за першыя чацвёра сутак агульнавайсковыя арміі пасунуліся на 100 кіламетраў, гэта значыць, сярэднесутачны тэмп наступлення быў 25 кіламетраў. За наступныя сем сутак войскі прайшлі наперад яшчэ 230 кіламетраў, сярэднесутачны тэмп дасягнуў ужо 33 кіламетры. Інакш кажучы, на шостыя суткі арміі выйшлі на рубеж, дасягнуць які планавалася на дваццатыя суткі. У часе аперацыі тэмпы наступлення ў два разы перавышалі раней вызначаныя. Танкавыя арміі ў некаторыя дні пасоўваліся на 70—80 кіламетраў. Праследванне праціўніка вялося калонамі. Гэта было не адступленне, а ўцёкі гітлераўцаў. Каб не адарвац-



Артылерыйская падрыхтоўка пры прарыве нямецкай абароны на Віслe.



**ПАШТОУКА З БЕЛАВЕЖЫ.** Белавежскія домікі прыгожа выглядаюць і зімою.
**Фота Цаф — Сянько**

# ДЫ ЎСПОМНІМ БЫЛЫЯ ГАДЫ

— Сядзьце, пагутарым, — запрапанаваў я Хвядоссі Сідарук, што жыве ў Навасадах Гайнаўскага павета.

— Аб чым? — запытала яна.

— Аб вашым жыцці — быцці, аб былых гадах.

— Жыццё маё паганае, — сказала цётка Хвядосся, сядаючы побач, — адно толькі гора ды бяда.

Было гэта ў сумныя гады тітлераўскай акупацыі. Муж Хвядоссі памёр у 1940 годзе, а яна засталася адна з чатырма сынамі. Яе брат, Марко Вашчэнка — стары рэвалюцыянер, дзеяч КПЗБ — пайшоў у лес у партызаны. Хвядосся ўтрымлівала з ім пастаянны кантакт, дапамагаючы партызанам арыентавацца ў тым, што дзеецца ў вёсцы і ваколіцы. Старэйшаму сыну Янку было тады 19 гадоў, ды немцы хацелі забраць яго ў Германію. Янка тры разы ўцякаў з дарогі ў родныя Навасады. Аднойчы солтыс сказаў Янку: «Калі не хочаш ісці ў Германію, уступай у паліцыю. Толькі гэта можа цябе ратаваць». «Не, — адказаў Хвядоссін сын, — немцам служыць я не пайду». «Ну, дык патлядзім, можа з табою быць значна горш», — прыгразіў солтыс.

У след за Маркам Вашчэнка, братам Хвядоссі, пайшло з Навасадаў у партызаны чацвёра іншых мужчын. Кіламетр ад Навасадаў пачынаецца лес — Белавежская пушча. Мужчыны адыйшлі ў пушчу ў адну зімовую ноч разам з партызанамі. Толькі паспелі яны адыйсці ў лес, як жанчыны — жонкі партызанаў паднялі страшэнны крык, павыбягалі расхрыстаныя і неапранутыя на вуліцу, ды данеслі немцам, што партызаны пазабіралі іх мужоў. Зрабілі так у змове з партызанамі, каб немцы не помсцілі сямействам адыйшоўшых у лес навасадаўцаў. Немцы выбеглі за вёску, пачалі страляць у гару ракеты, але ісці ў лес, зразумела, пабаяліся.

Мясцовыя цюцькі данеслі аднак немцам аб супрацоўніцтве Хвядоссі і яе сына з партызанамі. Іх арыштавалі. Забралі малодшага сына Аляксея, які меў тады ўсяго 14 год, ды вывезлі ў Германію на работы. Працаваў ён да канца вайны ў нейкага нямецкага баўэра. Для Хвядоссі і яе сына Янкі пачаліся цяжкія дні здзекаў і катаванняў. Не прызналіся да нічога. Але гітлераўцы не выпусцілі іх на волю. Хвядоссю адаслалі ў канцэнтрацыйны лагер у Равенсбруку, а Янку — у Гданьск. Не давялося яму ўжо выйсці на волю.

— Адзін чалавек з Шасталова, — расказвае са слязьмі цётка Хвядосся, — быў пры ім у апошнія гадзіны. Расказваў, што жыў яшчэ, калі адвозілі ў крэматорый. Не мог ужо гаварыць, кроў ішла ротам, немцы завярнулі яго ў нейкую плахту, укінулі ў самаход і павезлі.

З Равенсбруку вывезлі Хвядоссю Сідарук на тэрыторыю Чэхаславакіі, дзе амаль да канца вайны давялося ёй працаваць на нейкай фабрыцы зброі. Вызвалілі яе з нявolі чэшскія партызаны напярэдадні ўваходу амерыканскай арміі.

— Цяжка было ў лагеры і на прымусовых работах, — расказвае цётка Хвядосся, — але найцяжэйшай была думка аб дзецях. Аб дваіх старэйшых, якія былі ў руках немцаў і аб малодшых, якія засталіся ў Навасадах. Людзі баяліся прымаць іх у хату, баяліся пакарміць. Калі нехта даваў кавалак хлеба, дык у таямніцы, каб ніхто не бачыў. Аднаму з сыноў было тады 11, а другому — 12 год.

Зараз Хвядосся Сідарук жыве з сынам, які працуе на адным з прадпрыемстваў Гайнаўкі. З'яўляецца ён солтысам вёскі Навасады. Цётка Хвядосся, нягледзячы на стары ўзрост і слабое здароўе, працуе ў хаце і па-за хатаю. Любіць расказваць аб сваім пакутным, але мужным мінулым.

**Ул. Паўлючук**

# ПРА ШКОЛУ Ў АЛЕКСІЧАХ

У Алексічах, што ў Беластоцкім павеце, школа васьмікласная. Змяшчаецца яна ў прыватным памяшканні. Хаця будынак двухпавярховы — памяшканне цеснае. Ды справа не толькі ў гэтым. Горш, што няма тут таксама школьнага пляца, недзе пагуляць дзецям у мяч ці іншыя гульні на паветры. Кругом хлявы ды клуні.

Настаўнікі і вучні стараюцца, каб не адстаць ад іншых школ, якія знаходзяцца ў лепшых умовах. Пры школе ў Алексічах існуе гарцэрская дружына імя К. Сварчэўскага. Гарцэры прымаюць удзел у грамадскіх чынах як на карысць школы, так і на карысць асяроддзя. Напрыклад, дзеці дапамагалі пры будове дарогі Алексічы-Сеські, кожны год працуюць пры пасадцы лесу ў Жыўкаве, штогод дапамагаюць ПГР-у Дабжынюўка пры ўборцы каранеплодаў. За некаторыя з гэтых прац алексіцкія вучні атрымліваюць заплату, і гэта, толькі гэта, складае іх вучнёўскі фонд.

Хаця Алексічы далёка ад шашы і рэдка хто наведвае школьнікаў, стараюцца яны не траціць сувязей з суседнімі школамі. Гарцэрская дружына наладжвала сустрэчы з гарцэрамі з суседніх Козлікаў. Пастаянны кантакт утрымліваюць алексіцкія школьнікі са школай у Паўлах (Бельскі павет). Гэтыя сувязі моцныя не таму, што школа ў Паўлах працуе ў падобных памяшкальных умовах, але таму, што ля Паўлаў ёсць помнік загінуўшым у барацьбе з гітлераўскімі захопнікамі, дзе дзеці часта супольна складаюць кветкі, праводзяць гарцэрскія зборы. Многаму навучыліся алексіцкія гарцэры, знаёмячыся з культурным жыццём паўлаўскай моладзі.

Так, у максімальным скарачэнні, выглядае жыццё, згодная праца школы ў Алексічах. Нельга тут не прыгануць намаганняў, у гэтым напрамку, кіраўніка школы **Мар'яна Даманоўскага** і яго жонкі, таксама настаўніцы. Чаму менавіта іх? Па той нават прычыне, што яны тут найдаўжэй працуюць. Іншыя настаўнікі, папрацаваўшы год, адыходзяць.

А іншыя праблемы?

О, яны тут не малыя. Паколькі існуе згода між дзяцьмі, няма яе паміж бацькамі.

Школа ў Алексічах зборная. Ходзяць сюды дзеці з суседніх вёсак: Сеськаў, Астраўкоў, ды і іншых мясцовасцей. Паколькі памяшкальныя ўмовы алексіцкай школы цяжкія, ужо даўно ўзнікла думка, каб пабудаваць тут новы школьны будынак. На шчасце, думка такая нуртавала не толькі бацькоў, але зусім сур'ёзна за гэтую справу ўзяліся павятовыя ўлады. Іменна згода павятовых улад на пабудову новай школы сталася прычынай непаразуменняў паміж вёскамі. Барацьба паміж Сеськамі і Астраўкамі ідзе за месца, у якім мае будавацца новая школа. Аддаўшы слова справядлівасці, трэба сказаць, што Алексічы ў гэтай справе неяк сталіся нейтральнымі. За тым, каб школа будавалася ў Сеськах, стаяць павятовыя ўлады і геаграфічныя ўмовы, якія «ўсітуавалі» вёску Сеські ў цэнтры школьнага раёна, ды і геалагічныя ўмовы тут найлепшыя.

Астраўкі як вёска багатая і прыкладная, дзе добра дзейнічае сельскагаспадарчы гурток, а ў хуткім часе мае быць зроблены вадаправод, мае амбіцыі, каб мець у сябе і новую школу. Тутэйшым бацькам здаецца, што проста не выпадае, каб іх дзеці хадзілі ў школу ў нейкую іншую вёску.

Бацькі сеськаўскіх дзяцей у сваю чаргу змагаюцца за тое, каб менавіта іх пацехам было магчыма бліжэй да школы.

Між сялянамі ідзе задзёрнае змаганне. Адзін з алексіцкіх гаспадароў так і сказаў, што калі астроўская дэлегацыя выбіраецца ў Аддзел асветы, дык дэлегацыя гаспадароў з Сеськаў абавязкова падаецца ў той жа дзень у Камітэт.

Як мы ўжо ўспомнілі, пабудова новай школы для гэтага школьнага раёна плануецца ўсё ж у Сеськах. Школа, пабудова якой павінна пачацца ў наступаючай пяцігодцы, мае быць школай сучаснай з цэнтральным ацяпленнем і ўнутранымі санітарыятамі.

Аднак калі неразумнае змаганне з боку гаспадароў успамянутых вёсак (а асабліва з Астраўкоў) будзе надалей працягвацца, можа зноў адцягнуць пабудову новай школы ў гэтым раёне.

Аж дзіўна, што да гэтага часу ніхто не змог пераканаць гаспадароў, што вельмі шкодзяць сваім дзецям, а нават і свайму гонару.

А тым часам вырастае новая праблема. Праз 2—3 гады ў раёне алексіцкай школы прыдзе ў першы клас толькі 3 дзяцей. У далейшым колькасць дзяцей будзе памяншацца. Адсюль могуць узнікаць пытанні, ці наогул ёсць сэнс пабудовы школы ў Алексічах.

**Аляксей Карпюк**

ца ад праціўніка, нашы часці ў максімальнай меры выкарыстоўвалі ўсе віды трафейнага транспарту: аўтамабілі, матацыклы, веласіпеды, павозкі і інш. Амаль уся праследуючая пяхота рухалася на тым ці іншым відзе транспарту.

Усё гэта было цудоўна! Высокія тэмпы наступлення перш за ўсё захоўвалі тысячы жыццяў нашых воінаў. Апрача таго, давалі велізарную эканомію матэрыяльных сродкаў. Спешна адступаючы праціўнік не паспявае разбураць дарогі, масты, іншыя важныя аб'екты. Урэшце, высокія тэмпы наступлення даюць шмат трафеяў.

А што можа быць дрэннага ў высокіх тэмпах? Тылу становіцца ўсё цяжэй забяспечыць далёка адарваўшыеся войскі. Расход гаручага непамерна расце, а падаваць яго можна толькі аўтатранспартам, так як першы і часта значны час чыгуначныя дарогі бяздзейнічаюць. А дзе ўзяць столькі наліўных машын? І апрача таго, дарогі... Дык зіма, галалёдзіца, завеі!

Адбудова чыгуначных дарог і пабудова мастоў праз Віслу пачалася адразу пасля выгнання праціўніка з левага берагу Віслы. Працы пачаліся шырокім фронтам, днём і ноччу. Аднaчасова будаваліся і перавалачныя базы на станцыі Варшава-Заходняя і ў раёне Дэмбліна. Было затрачана шмат матэрыялаў, рабочай сілы і транспарту, каб пабудаваць на станцыі Варшава-Заходняя звыш 30 кіламетраў паралельных шляхоў і каля кіламетра высокіх платформ і навесаў для часовага перахоўвання грузаў на перавалку. 29 студзеня 1945 года была закончана аднaчасова адбудова 300-кіламетровага шляху ад Варшавы да Познані і будаўніцтва Варшаўскага чыгуначнага мосту. Можна было б прыступіць да перавалкі грузаў і дастаўкі іх да Познані.

Наступаючыя войскі знаходзіліся далёка за Познанню, набліжаючыся да Одры. Адлегласць паміж імі і франтавымі прырэльсавымі базамі дасягала 500 кіламетраў. Пераваліць нават тры-пяць паяздоў у суткі і падаць іх магчыма бліжэй да войск мела ў той час бясцэннае значэнне. Справа была не толькі ў падачы боепрыпасаў і гаручага; адарваліся ад войск цяжкія танкі, артылерыя вялікіх калібраў, металічныя ўзлётна-пасадачныя палосы, цяжкая інжынерная тэхніка. Ці ж усё гэта падасі на аўтамабілі?

Я не памяншаю ролі аўтатранспарту ў Вісла-Одэрскай аперацыі. Але ў тыя дні выратаваць становішча магла толькі чыгуначная дарога.

І вось наступіў доўгачаканы дзень, калі мы пасля выпрабавання Варшаўскага мосту і ўсяго шляху да Познані аб'явілі, што з 29 студзеня 1945 года пачне дзейнічаць галоўны чыгуначны напрамак. Але менавіта ў гэты дзень прыйшло ўказанне цэнтра неадкладна прыступіць да перашыўкі ўсяго гэтага напрамку на саюзную калею...

Лёгка сказаць — перашыць аднова 300 кіламетраў двухшляхавай чыгуначнай дарогі! Перашыць толькі што адбудаваны Варшаўскі чыгуначны мост! Зноў перашываць велізарны вузел Варшава-Заходняя і паставіць крыж на тых звышлюдскіх намаганнях, якія былі затрачаны на будаўніцтва і абсталяванне тут перавалачнай базы! Чытач сам зразумее нашы перажыванні.

Але нічога не зробіш — давялося вяртаць чыгуначныя войскі і патрабаваць ад іх новых, літаральна тытанічных намаганняў.

## Чвэрць стагоддзя назад




### ПАСТКА

Пасля чарговага сеанса сувязі, Шпакаў зноў прывёў групу на бераг ракі Швантойе.

— Цэлікаў, Аўчароў, Зварыка, Юшкевіч і ты, — сказаў мне Мікалай, — застанецеся тут. Будзеце па чарзе сачыць за рухам на чыгунцы. Заўтра вечарам прышлі да мяне Юшкевіча са зводкай. Мы пойдзем за канал Тымбер, будзем на тым жа месцы, каля штабеля дроў. Месца каля штабеля дроў будзе з гэтага моманту нашым другім явачным пунктам — паштовай скрынкай. Першым будзе гэты, дзе мы знаходзімся зараз, — ён падышоў да невялікага каменя, адвярнуў яго. — Калі хто адстане, адаб'ецца, або на выпадак, калі давядзецца ў часе бою рассеяцца ў лесе па адным, то старайцеся прыйсці сюды і пакінуць пад гэтым каменем запіску. Тут жа знойдзеце звесткі і пра іншых, атрымаеце ўказанне, што рабіць далей.

— Ясна, — адказаў за ўсіх Мельнікаў.

Група раздзялілася на часткі. Пайшлі за канал Шпакаў, Мельнікаў, Аня і Зіна. Цяпер ужо ў час радыёсувязі працавала не адна, а дзве радыёстанцыі. Аня і Зіна разыходзіліся ў розныя бакі кіламетраў на дзесяць-пятнаццаць ад асноўнай «базы» — штабеля дроў. Адна з іх вяла перадачу, а другая падавала ў эфір ілжывыя сігналы — уводзіла ў зман станцыі пеленгавання.

Хоць групе пакуль што шанцавала, кожны разумеў — тэта не можа працягвацца бясконца.

Як і загадаў Шпакаў, назаўтра вечарам я перадаў зводку Генку.

Праз нейкі момант у тым баку, куды пайшоў Генка, хруснула сухая галінка. Мы насцярожыліся, моўчкі, прыслухоўваючыся, узяліся за аўтаматы. Зноў, раз, другі хруснула ўжо бліжэй да нас.

— Генка, — нягучна пазваў я, падумаўшы, што ён нечага вярнуўся.

Ніхто не азваўся. Зноў пачуліся крокі, асцярожныя, таямнічыя, толькі цяпер ужо далей. Што б гэта магло быць?






## ЦІ ПРЫЕМНА БЫЦЬ ГОСЦЕМ?..

У кожнага народа ёсць свае звычаі сустракаць ганаровых гасцей. Паходжанне многіх з іх скрыта ў глыбіні стагоддзяў. Як піша англійскі часопіс «Уікэнд», на востраве Барнео, напрыклад, ганароваму госцю мажуць твар крывёю кураняці. Іншы раз там у гонар госця забіваюць свінню або буйвала, за якіх згодна са звычаем госць абавязан заплаціць.

Сустракаюцца і іншыя звычаі. На Суматры, напрыклад, забіваюць буйвала і прапануюць госцю паспытаць яго сырую пячонку. Пры гэтым госця паліваюць вадой. У Афганістане пры сустрэчы госця (там, як правіла, ездзяць адзін да аднаго на конях) пад дапыты каня кідаюць тлеючае вуголле і пры гэтым крычаць: «Сардэчна запрашаем!», «Сардэчна запрашаем!»

Не вельмі, бадай, прыемна быць госцем індзейцаў некаторых плямёнаў у Паўднёвай Амерыцы. Пры сустрэчы ганароваму госцю ўручаецца велізарная чорная мурашка, якая балюча кусаецца. Пасля яе ўкусаў на целе чалавека застаюцца раны, якія доўга не зажываюць. Але гэту ж мурашку госць прыкладвае да твару, рук і ног гаспадара. Калі гэта «мука» робіцца апошняму невыноснай і ён просіць яе спыніць, звычай патрабуе, каб госць ветліва гаварыў: «Яшчэ крышачку», «Яшчэ крышачку».




### РЫБА Ў ЦЕСЦЕ

Змяшайце муку і соль з дзвюма лыжкамі алею, разбаўце паловай шклянкі вады, добра размяшайце, каб не было камякоў. Пачышчаную рыбу нарэжце тонкімі кавалкамі, пасаліце, пасыпце перцам і пасечанай зелянінай пятрушкі. Сок паловы лімона змяшайце з лыжкай алею і пакладзіце туды рыбу на 15—20 хвілін. За чвэрць гадзіны да падачы на стол дадайце ў цеста два ўзбітыя ў крутую пену бялкі, акуніце ў цеста кожны кавалачак рыбы і пакладзіце смажыцца ў каструлю з гарачым алеем. Алею вазьміце столькі, каб цалкам пакрыць рыбу. Гатовую рыбу пералажыце на блюда і абкладзіце адваранай бульбай з маслам. Ядуць рыбу гарачую, падаюць да яе агуркі, памідоры.

### СУП З ГАРОДНІНЫ

Нацерці галоўку сельдэрэю, галоўку рэпчатай цыбулі, 2—3 морквіны, парэзаць 3—4 бульбіны і патушыць у 2 сталовых лыжках алею або сметанковата масла. Дадаць сталовую лыжку таматнага пюрэ, сталовую лыжку мукі, соль і чорны перац па смаку і ўліць паўтара літра кіпетню. Дацць супу пакіпець мінут 15 і падаць на стол, пасыпаўшы дробна нарэзаным зяленівам пятрушкі.

## НОВАЯ ПЛАНЕТНАЯ СІСТЭМА

Даўно ўжо астраномы мяркуюць, што ў Сусвеце існуе мноства планетных сістэм побач з Сонечнай. У прыватнасці, астраном Кумар прыйшоў да заключэння, што ў радыусе 600 000 мільярдаў кіламетраў вакол Зямлі павінна існаваць каля 30 000 зорак, што маюць планетную сістэму.

Нядаўна супрацоўнік Пенсільванскай абсерваторыі Петэр ван дэ Камп зрабіў сенсацыйнае адкрыццё, якое пацвярджае гіпатэзу аб існаванні новай планетнай сістэмы: дзве планеты (маса кожнай з іх прыкладна роўная масе Юпітэра) абарачаюцца вакол зоркі Барнарда — першая на адлегласці прыкладна 720 мільёнаў кіламетраў з перыядам абарачэння ў 26 гадоў, другая на адлегласці 400 мільёнаў кіламетраў, перыяд абарачэння якой складае 12 гадоў.

Ван дэ Камп пачаў свае даследванні ў 1916 годзе з вывучэння бінарных зорак. У 1937 годзе ён пачаў адкрыццё планет па-за Сонечнай сістэмай і знайшоў першае пацвярджэнне іх існавання ў 1948 годзе. Пачынаючы з 1963 года ён адзначыў наяўнасць «нябачнага спадарожніка» зоркі Барнарда і, нарэшце, цяпер прыйшоў да вываду, што гутарка ідзе не аб адной, а аб дзвюх планетах, якія суправаджаюць зорку Бернарда. Адкрыццё амерыканскага астранома з'яўляецца першым у гісторыі астраноміі доказам існавання планетнай сістэмы вакол зоркі.








ВАРШАВА. РЫНАК СТАРОГА МЯСТА Ў 1945 Г. І ЦЯПЕР.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### РЭДКІ ВЫПАДАК

У ліпені 1967 года ў бальніцу горада Ловеч у стане цяжкага шоку была дастаўлена 16-гадовая Пенка Семава, якая пацярпела пры аўтамабільнай катастрофе. Агляд і рэнтгенаўскія здымкі паказалі, што косці левай нагі ад калена да сярэдзіны бядра не было. Пасля старанных пошукаў на месцы катастрофы, прыкладна ў 13—14 метрах ад месца здарэння, урачы выявілі кавалак косці даўжынёй 18 сантыметраў. Цяжкі стан дзяўчыны, дадатковыя ўскладненні, што ўзніклі, не далі магчымасці, аднак, неадкладна пачаць аперацыю. Таму было зроблена глыбокае замарожанне косці, і яна была накіравана для апрацоўкі і захоўвання ў тканкавы банк сафійскага інстытута хуткай медыцынскай дапамогі імя Пірагова. Праз 6 месяцаў група ўрачоў на чале з хірургам Мінка Дудзейскім увяла закансерваваную косць у бядро пацярпеўшай дзяўчыны. Гэта рэдкая аперацыя — першая ў практыцы балгарскіх артапедаў.




... усяго 1 мін. 26,4 сек. спатрэбілася амерыканскаму лесарубу Сірлсу, каб распілаваць елку дыяметрам 81,28 см.

### ЧАМУ Ў КОШКІ ЗЯЛЁНЫЯ ВОЧЫ

Неяк вечарам я прагульваўся ў старым парку. Нечакана з кустоў мне насустрач выскачыла вялізная пухнатая кошка. Як два смарагды, ярка бліщчэлі ў цемры яе вочы. Чаму ж кацінья вочы свецяцца зялёным святлом?

Вывучаючы гэтую з'яву, вучоныя заўважылі, што зялёны бляск — адбітае свячэнне. У яркім святле ліхтара ці аўтамабільных фар вочы кошкі бачны на адлегласці да васьмідзесяці метраў. Гэтая з'ява тлумачыцца асаблівасцямі будовы кацінага вока.

Сноп прамянёў святла праходзіць праз рагавіцу і крышталік, факусіруецца на ўнутранай паверхні вока, адбіваецца ад яе, зноў трапляе ў крышталік, рагавіцу і выходзіць адтуль ужо ў выглядзе вузкага строга накіраванага пучка праменняў. Такім чынам, унутраная сферычная паверхня і лінзы кацінага вока — гэта своеасаблівы пражэктар, таму і бачны яны здалёку.

Але чаму промень белага святла адбіваецца каціным вокам у выглядзе зялёнага? І гэта цудоўнае пераўтварэнне абавязана асаблівасцям будовы вока ў кошкі. Аказваецца, паміж сасудзістай абалонкай, што высцілае дно вока, і сятчаткай, што ляжыць на сасудзістай абалонцы, ёсць яшчэ пласт. Ён адыгрывае ролю люстэрка, якое адбівае святло, што прайшло праз сятчатку, і памагае лепш бачыць у цемры. У кошак «люстэрка» — зялёнае. Вось чаму кацінья вочы зіхацяць зялёным бляскам.

**Барыс Разен**
**кандыдат хімічных навук**



— Мо звер які? Дзік... — выказаў меркаванне Цэлікаў.

— А можа — нехта высачыў нас? — выказаў меркаванне Юзік Зварыка.

— Наўрад ці гэта быў чалавек... — запярэчыў Аўчароў. — Каму гэта ахвота лезці на ражон аднаму. Ды яшчэ ноччу...

Кідаць зручнае месца і бегчы немаведама ад чаго — не надта разумна. Ва ўсякім выпадку, да раніцы нам нічога не пагражала.

Рашылі заставацца на месцы.

Аўчароў і Цэлікаў пайшлі наглядаць за рухам па шашы, а я са Зварыкам сачылі за чыгункай.

Як толькі развіднела, Зварыка штурхнуў мяне ў бок.

— Глядзі!

Па шпалах павольна рухаліся маленькія, цёмныя фігуркі. Іх сілуэты былі да таго знаёмыя, што сэрца міжволі сціснулася: гэта ішлі салдаты ў касках.

— Трэба выбірацца за шашу, — заспяшаўся Зварыка.

— Правільна, Юзік, пабяжым. Там жа і Аўчароў з Цэлікавым.

Далёка мы не паспелі адысці, як сустрэлі сваіх. Яны таксама былі ўстрывожаны.

— Шаша застаўлена машынамі — адна пры адной. Як суцэльная сцяна, — паведаміў нярадасную вестку Аўчароў. — Салдаты выгрузіліся і ланцугом ідуць сюды. Хутчэй уцякайма за жалезку.

— І на жалезцы салдаты, — адказваю я.

— Трэба паспрабаваць прабіцца, — рашуча сказаў Аўчароў.

Мы вярнуліся. З насыпу чыгункі нам насустрач ужо спускаліся аўтаматчыкі.

— Не праб'ёмся — трэба падацца ўлева або ўправа, — прапанаваў Зварыка.

— Управа ж — голае поле, паселішчы... — не пагадзіўся з такой прапановай Аўчароў.

Мы абодва ўважліва паглядзелі на Юзіка: на яго твары быў выраз нядобрага прадчування. Мо нам тады так здалося, але потым, успамінаючы, мы з Іванам Аўчаровым абодва сышліся на гэтай думцы. Не было калі раздумваць — трэба было ратавацца. Толькі як? Ніхто з нас не ведаў.

Кінуліся на захад, да вёскі Жаргілен. Пасярод ляснога квартала напароліся на кулямётчыка. Ён ляжаў па ўсіх правілах, шырока раскінуўшы ногі, як на вучэннях. Наша шчасце, што кулямёт быў скіраваны ў бок чыгункі. Мы прыстрэлілі яго. На першай жа прасецы ўбачылі новыя групы салдат. Адну з іх абстралялі, але і самі былі абстраляны.

Найбольшы шанс выратавацца — гэта разысціся па адным і хавацца, як хто зможа. Я аб'явіў аб гэтым сваім таварышам. Назначыў збор каля паштовай скрынкі нумар адзін.

Крадучыся праз заразлі, я прыглядаўся да векавых елак. Вабіла залезці на верхавіну, схавацца ў густых лапках. «Не могуць жа салдаты правяраць кожнае дрэва», — думаў я. Але тут заўважыў вялізны вываратень. Па свежай ігліцы відаць было, што елка ўпала ў час апошняй буры. У яе густой кроне мог бы схавацца не адзін, а некалькі чалавек. Спачатку я так і рашыў: залезу пад камель, схаваюся ў самых густых лапках. Але тут перадумаў. Вельмі ўжо заманлівае сховішча, напэўна, і немцам яно адразу кінецца ў вочы — прачэшуць стрэламі абавязкова. Зазірнуў пад корань вываратня — глыбокая яма. З навіслымі ніцямі карэнняў. Але і яна прыцягвае ўвагу — наўрад ці пройдуць міма... Тады я паглядзеў на той бок вываратня, адкуль пачынаўся таўшчэзны камель. Мох доўгімі пасмамі звісаў уніз, дастаючы да зямлі. Можна легчы пад камлём упоперак і накрыцца мохам. Праўда, галава або ногі будуць тырчаць. Я адчуваў, што немцы вось-вось могуць быць тут, таму з ліхаманкавай паспешлівасцю зрэзаў пад корань некалькі маленькіх елачак, уваткнуў іх у зямлю, а сам схаваўся пад камлём. Зверху яшчэ прыкрыўся мохам. Тварам я ляжаў да дарогі, адкуль павінны былі паказацца гітлераўцы.

Чакаць доўга не прыйшлося. Вось паказаліся салдаты. Некалькі чалавек ішлі проста на вываратень. Я рашыў не выдаваць сябе, ужыць зброю толькі ў тым выпадку, калі мяне заўважаць. Па тупату ног, шоргату ботаў я адчуў, што каля вываратня прыпынілася чалавек каля дзесяці. Адзін з іх ушчыльную падышоў да камля. Я мог проста ўзяць яго за нагу рукой. «Хоць бы ён не наступіў на мяне ці на аўтамат тады ўсё прапала...» — трывожыла думка. Сэрца так моцна тахкала, што, здавалася, яго стук можна пачуць на адлегласці.

— Раўс, раўс, выходзь! — нягучна пачуўся голас нада мной. — Трэба прачасаць агнём, — з гэтымі словамі немец даў адну за адной некалькі кароткіх чэргаў у густыя перапляценні лапак. Шум аддаўся па ўсім камлі.

Салдаты пайшлі далей. Адзін за адным яны пераступалі цераз камель каля самай маёй галавы. Я выразна чуў іх сапенне, шоргат сухой кары, трэск сухіх галінак, якія абламваліся пад цяжкімі кованымі ботамі. Ужо зусім змоўклі іх крокі, а я ўсё яшчэ ляжаў, баючыся паварушыцца, бо так і здавалася, што нехта, прытаіўшыся, стаіць нада мной. І сапраўды, я не паспеў перавесці дыханне, як пачуў нямецкую гаворку — ішоў другі ланцуг. Гэтыя прайшлі, не спыняючыся. Я расслабіў руку, якой сціскаў аўтамат, прыслухаўся. Стала непрывычна ціха — ні стрэлаў, ні галёкання. Быццам нічога тут не было, нічога не адбылося. Мусіць, я доўга праляжаў. Толькі тады я адчуў, якое здранцвенне найшло на мяне. Чутна было, як ажывае кожная жылка. Па ўсім целе разлілася гарачыня. Смерць і на гэты раз прайшла міма.

Раптам з таго боку, куды прайшлі салдаты, пачуліся частыя аўтаматныя чэргі. Часам яны зліваліся ў суцэльны гул — так многа людзей страляла адначасова. Значыць, нехта з нашых быў выяўлены, нехта біўся з ворагам. Сумятня, крыкі, стрэлы чуліся з гадзіну.

Пасля абеду зноў, толькі на гэты раз у адваротным напрамку, прайшлі двума ланцугамі нямецкія салдаты. А перад захадам сонца яны трэці раз прачасалі лес. Толькі стрэлаў больш не чуваць было.

Прабіваючыся ў цемнаце да явачнага пункта, я зняў боты і паклаў іх у рук-

